

„Калі сялянская гаспадарка можа разьвівацца далей, неабходна моцна забясьпечыць і далейшы пераход, а далейшы пераход нямінуча заключаецца ў тым, каб найменш выгодная і найбольш адсталая, дробная, абасобленная сялянская гаспадарка, паступова аб'ядняючыся, зарганізавала грамадзкую буйную земляробчую гаспадарку. Так уяўлялі сабе ўсё гэта сацыялісты заўсёды. Імэнна так глядзіць і наша камуністычная партыя".

ЛЕНІН.

# Выканаць бальшавіцкія рашэньні зьезду!

Работа зьезду зьявілася яшчэ адным найвялікшым доказам сталёвай непарушнасьці саюзу рабочай клясы і працоўнага сялянства.

Тав. **Шарангові̇ч** у сваім дакладзе на зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў на фактах і лічбах паказаў, якіх посьпехаў, якіх перамог дабіліся мы пад кіраўніцтвам нашага тав. Сталіна, пад кіраўніцтвам нашай бальшавіцкай партыі ў справе калгаснага будаўніцтва.

2.181 калгас, 429 саўгасаў, 61 МТС—вось з чым мы сустракаем першую вясну другой пяцігодкі. Усё гэта ня прышло да нас самацёкам. Свае перамогі, свае посьпехі мы заваявалі ў суровай і непрымірымай барацьбе, барацьбе не на жыцьцё, а на сьмерць з клясавым ворагам і яго агентурай.

Клясавы вораг разгромлен. Кулак разьбіт. У вёсцы канчаткова падарваны карэньні капіталізму і перамога сацыялізму, як і ў горадзе забясьпечана. Але вораг не здаецца бяз бою. Разгромлены, але яшчэ не дабіты, кулак аказвае шалёнае супраціўленьне. Чым больш мы расьцем, чым больш мацнее наша магутнасьць, сіла нашай пралетарскай дзяржавы, чым больш мацнеюць нашы калгасы, тым з большай нянавісьцю, з большым шаленствам рэшткі капіталістычных клясаў імкнуцца затармазіць, затрымаць наш рух наперад, падарваць і разваліць нашы калгасы.

Вораг зараз, зразумела, не выступае адкрыта. Ён зьмяніў сваю тактыку, зьмяніў мэтады сваёй барацьбы. Пралезшы ў калгас, на калгасную стайню, у брыгаду, на калгасныя фэрмы, у МТС, ён адтуль ціхай сапай праводзіць сваю контррэвалюцыйную, падрыўную справу.

Патрэбна асаблівая пільнасьць, патрэбна максымальная насцярожанасьць. Патрэбна самая бязьлітасная барацьба з рэшткамі недабітага ворага і яго агентамі.

Наш зьезд адбываўся на парозе сяўбы. Кліматычныя ўмовы ў гэтым годзе, як нельга лепш спрыяюць масаваму разгортваньню звышраньніх палявых работ. У радзе паўднёвых раёнаў звышраньняя сяўба ўжо ідзе. У Слуцкім, Ельскім і іншых раёнах перадавыя калгасы ўжо засеялі першыя гэктары аўса.

Надышоў самы рашаючы час, надышло самае сурёзнае і рашаючае выпрабаваньне паказаць, як мы умеем працаваць, як мы гатовы выйграць наш галоўны бой—бой за бальшавіцкае правядзеньне веснавой сяўбы.

Зьезд прыняў выклік Заходняй вобласьці на лепшае правядзеньне пасеўнай кампаніі. Гэта ўскладае на нас у тысячы раз большыя абавязацельствы і ў першую галаву на нашы партыйныя арганізацыі, на нашых дэлегатаў зьезду.

Будзе ганьбай, найвялікшай і нічым не апраўданай ганьбай, калі мы адстанем, калі мы ня выканаем сацыялістычнага дагавору з Заходняй вобласьцю.

А такая пагроза **ёсьць**.

Насеньне—адзін з самых асноўных і рашаючых вучасткаў веснавой сяўбы. А як у нас стаяць тут справы? Дрэнна, ганебна дрэнна. Бальшавіцкай, сапраўды бальшавіцкай, а не славесна-дэклярацыйнай барацьбы за насеньне яшчэ няма. Справа-ж ня толькі ў тым, каб ссыпаць насенфонды. Галоўнае-ж у тым, каб ня толькі ссыпаць, але і ачысьціць, адсартаваць, пратруціць і захаваць насенфонды, каб забясьпечыць насеньнем яравы клін у поўнай адпаведнасьці з вызначаным плянам.

Пяць дзён працаваў першы Ўсебеларускі зьезд калгасьнікаў-ударнікаў. Пяць дзён перадавыя байцы за бальшавіцкія калгасы, лепшыя арганізатары калгаснай вытворчасьці практычна вырашалі гістарычныя задачы нашай першай вясны другой сацыялістычнай пяцігодкі. Пяць дзён такой напружанай работы, якая прыкавала ўвагу ўсёй краіны, увагу ўсіх рабочых, калгасьнікаў і працоўных сялян.

Што паказаў зьезд?

Першае і ў гэтым—галоўнае, зьезд гіганцкай пераканаўчай сілай яшчэ і яшчэ прадэманстраваў бязьмерную адданасьць працоўнага сялянства нашай ленінскай партыі і савецкай ўладзе.

**Засеяць кожны гэктар высокаякасным ачышчаным і пратручаным насеньнем—вось у чым баявая задача!**

Рамонт трактароў і сельскагаспадарчага інвэнтару ў нас таксама недапушчальна зацягнуўся. Мы і тут ганебна адсталі ад іншых абласьцей Савецкага саюзу.

Рашуча выкрываючы апартуністаў, ачышчаючы МТС і МТМ ад кулацка-шкодніцкага ахвосьця, даб'емся, каб кожны трактар, кожная машына зараз-жа былі адрамантаваны і прытым адрамантаваны добра.

Гатоўнасьць трактарнага парку—гэта, аднак, яшчэ ня ўсё. У нашых умовах посьпех сяўбы вырашае конь. Падрыхтаваць каня да сяўбы, забясьпечыць яму надзейны догляд, забраніяваць для яго выстарчальную колькасьць кармоў—вось што асноўнае. Навядзем-жа на кожнай калгаснай стайні сапраўды ўзорны парадак, выганім кулака-шкодніка, лодыра і падкулачніка, паставім конюхамі лепшых правераных калгасьнікаў.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР ня раз падкрэсьлівалі недапушчальнасьць ігнараваньня і недаацэнкі аднаасобніка ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. Аднаасобнікі—нашы заўтрашнія калгасьнікі і іх таму нельга ігнараваць. У пляне веснавой сяўбы на бягучы год аднаасобны сэктар яшчэ займае даволі сур'ёзнае месца. Кожная партыйная арганізацыя павінна неадкладна праверыць, як адрамантаван у іх інвэнтар і ссыпаны страхавыя фонды, як даведзены да іх пасеўныя абавязацельствы. Усякі факт недаацэнкі аднаасобнага сэктару, усякі факт ігнараваньня аднаасобнікаў павінен сустрэць самы руйнуючы адпор!

Зьезд калгасьнікаў—ударнікаў даў сапраўды бальшавіцкую пуцёўку на правядзеньне першай вясны другой пяцігодкі. За працу-ж, таварышы, за працу! Ня будзем траціць ні аднэй мінуты! Усе нашы сілы, усю нашу волю і энэргію—на пасеўны фронт!

Даб'ем кулака, выганім з калгасных радоў лодыраў і прагульшчыкаў, засеем і добра засеем увесь яравы клін!

Шчыльней рады вакол ЦК УсеКП(б) на чале з т. Сталіным, вакол КП(б)Б і яе ЦК!

(*З „Зьвязды“*).



**„Цяпер пытаньне стаіць ўжо не аб тым—быць ці ня быць калгасам,—гэта пытаньне ўжо вырашана станоўча. Калгасы замацаваны і шлях да старой аднаасобнай гаспадаркі закрыт канчаткова. Цяпер задача заключаецца ў тым, каб умацаваць калгасы арганізацыйна, вышыбіць адтуль шкодніцкія элемэнты, падабраць сапраўдныя правераныя бальшавіцкія кадры для калгасаў і зрабіць калгасы сапраўды бальшавіцкімі. У гэтым цяпер галоўнае“.**

**СТАЛІН.**

Дзяржаўна публічна бібліятэка
27 ОКТ 33

# Насустрач вясьне

(*Верш Тараса Хадкевіча*)

**Паўднёвыя ветры
здалёку плывуць,
зганяюць мяцеліц
кудравую муць.**

**Паўднёвыя ветры
в-за поля нясуць
жаданай вясны
залатую красу.**

**Здаецца пытае вясновы павеў:
калгасныя хаты, гатовы, ці не,
са стрэх сваіх скінуўшы
рэшткі завей
наладзіць сустрэчу
калгаснай вясьне?**

**Вясна загадае:
на поле выходзь,
за пляны сяўбы
пачынай паход,
брыгадамі моцнымі
дружна рыдь
заданьні напорам сваім
перакрыць!..
Каб кожны загон
ярынай каласіў,
багатую рунь весялей узьнімаў,
патрэбна зьяднанасьць,
напруджанасьць сіл
і поўны агня
бальшавіцкі размах.
Хай трактары будзяць
абшары палёў,
варочаюць тлустаць
старой цаліны,
хай рэхам імчыцца
над нашай зямлёй
бадзёрая песьня
калгаснай вясны.
Вясна не чакае,
на поле выходзь,
за пляны сяўбы
пачынай паход!**

# Вышэй сьцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму!

У „Праўде“ ня раз друкаваліся матар'ялы, якія сьведчаць аб актывізацыі разгромленых і выбітых з эканамічнай каляіны на мясцовых буржуазна-кулацкіх нацыяналісцкіх рэштак і аб грубейшых скажэньнях ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Заслугоўвае асаблівае ўвагі ліст ЦК КП(б)Б і СНК БССР („Праўда“ ад 4 сакавіка) „Аб памылках партыйных і савецкіх арганізацый Беларусі ў нацыянальным пытаньні“. У гэтым лісьце яны прызнаюць, што многія кіруючыя партыйныя і савецкія арганізацыі Беларусі „не вядуць бальшавіцкай барацьбы за асноўныя прынцыпы інтэрнацыяналізму і ў радзе выпадкаў патураюць буржуазна-кулацкім нацыяналістычным тэндэнцыям“, і гэта, ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні і перасьцярогі з боку ЦК УсеКП(б).

Савецкі саюз самая шматнацыянальная краіна ў сьвеце і разам з тым самая „дасканалая арганізацыя супрацоніцтва народаў“ (**Сталін**).

„Мы праціўнікі нацыянальнай варожасьці, нацыянальнай рознасьці, нацыянальнай абасобленасьці.

Мы міжнароднікі... Інтэрнацыяналісты... „Гэты лёзунг Леніна напісала на сваім сьцягу наша партыя. Кастрычніцкая рэвалюцыя паставіла крыж на каленізатарскай, русіфікатарскай палітыцы царскага ўраду і высунула на сцэну раней забытыя народнасьці, прабудзіла іх да новага жыцьця, да новага разьвіцьця на сацыялістычнай аснове. Пазнаёмцеся бліжэй з вынікамі першай пяцігодкі і вы зьдзівіцеся радыкальнай зьменай аблічча ўсіх народаў, аб'яднаных ў Савецкі саюз. У нацыянальных рэспубліках і абласьцях краіны няўхільна мацнее савецкая дзяржаўнасьць. З кожным годам вырастаюць ачагі сацыялістычнай індустрыі, калектывізуецца сельская гаспадарка, ліквідуюцца фэадальна-байскія, кулацкія элемэнты, выкарчоўваюцца самыя глыбокія карэньні эксплёатацыі. Павялічваецца сетка школ, газэт і тэатраў на мясцовых мовах. Растуць уласныя пралетарскія кадры, што яшчэ больш цэмантуе апору пралетарскай дыктатуры ў былых каленіях расійскай буржуазіі.

Дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы народы Савецкага саюзу—Татарыя, Башкірыя, Казакстан, Кіргізія, Дагестан і г. д.—здолелі перайсьці ад розных форм гаспадаркі і патрыярхальна-родавага быту непасрэдна да сацыялістычнага будаўніцтва, мінаючы капіталістычны шлях разьвіцьця.

Поўнасьцю забясьпечана магчымасьць свабоднага разьвіцьця і паасобным нацыянальным меншасьцям, якія падпадалі пры панаваньні капіталістаў і памешчыкаў нячуваным ганеньням.

Які найвялікшы кантраст са становішчам шматмільённых мас працоўных Кітаю, Інданэзіі, Марока, Альжыру, Конга і г. д., якія знаходзяцца пад цяжкім прэсам уціску з боку імпэрыялістычных драпежнікаў Эўропы, Амэрыкі і ўласнай буржуазіі.

Уступленьне СССР у другую пяцігодку сацыялістычнага будаўніцтва азначае яшчэ большы гаспадарчы і культурны ўздым і росквіт нацыянальных рэспублік і абласьцей нашай вялікай краіны.

Трэба, аднак, мець на ўвазе, што ў нацыянальным пытаньні выключна шкодна пакладацца на самацёк. Посьпехі далейшага ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай палітыкі будуць тым больш значнымі, калі кожная партыйная арганізацыя, кожны камуніст глыбока ўсьвядоміць тое новае, што ёсьць зараз у клясавай барацьбе ўнутры краіны, калі яны з яшчэ большай пасьлядоўнасьцю і непрымірымасьцю будуць змагацца за лінію партыі ў нацыянальным пытаньні супроць усіх і ўсякіх ад яе адхіленьняў. Узмацненьне магутнасьці Савецкага саюзу сустракае заўзятае супраціўленьне разьбітых контррэвалюцыйных, буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных груп, няўхільна атрымліваючы свой адбітак і ўнутры партыі. Клясавы вораг і на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва пацярпеўшы рашаючае паражэньне ў адкрытых баёх, прабуе зараз іншымі спосабамі, іншымі сродкамі накіраваць супроць нас свае апошнія сілы, роспачлівую злосьць і ненавісьць. Ад мэтадаў непрыкрытай барацьбы ён перайшоў да мэтадаў барацьбы завуаляванай, не атрымліваючы ў радзе выпадкаў рашучага адпору з боку мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый.

Гэтым, перш за ўсё, і тлумачыцца тое, што за апошні час у радзе раёнаў, у прыватнасьці, Беларусі, Украіны, а таксама Сярэдняй Азіі і Казакстану, далёка не адзіныя выпадкі пранікненьня шавіністаў на паасобныя вучасткі сацыялістычнага будаўніцтва, у асобныя зьвеньні савецкага і прафсаюзнага апарату, асабліва ў зямельныя органы і культурна-асьветныя ўстановы, а таксама ў школы, ВНУ і нават у рады партыі і камсамолу.

Гэтым у сваю чаргу тлумачыцца і тое, што ў радзе месц тых-жа рэспублік ажывіліся ўхілісты ў бок вялікадзяржаўнага шавінізму і мясцовага нацыяналізму.

Сутнасьць ухілу да вялікарускага шавінізму, як ня раз указваў т. Сталін, заключаецца перш за ўсё ў імкненьні абыйсьці нацыянальныя рознасьці мовы, культуры, быту, разьвянчаць палітыку партыі па нацыяналізацыі апарату, прэсы, школы і іншых арганізацый і тым самым падарваць прынцып нацыянальнага роўнапраўя і падрыхтаваць ліквідацыю нацыянальных рэспублік і абласьцей. Іменна ў гэтым кірунку і арудуюць зараз вялікарускія шавіністы і іх агенты ўнутры партыі.

„Палітыка“ вялікадзяржаўных ухілістаў зьяўляецца капітулянцкай перад труднасьцямі нацыянальна-культурнага будаўніцтва і накіравана яна, таксама як і „тэорыя“ аб аслабаненьні клясавай барацьбы, аб „плаўным“ ходзе разьвіцьця і аб адміраньні пралетарскай дзяржавы, да падрыву савецкай улады. Вялікадзяржаўны ўхіл зьяўляецца галоўнай небясьпекай у нацыянальным пытаньні нашай партыі, бо ён у сваю чаргу стварае спрыяючую глебу для распальваньня нацыяналістычных пачуцьцяў сярод мас і тым самым узмацняе пазыцыі мясцовых буржузна-кулацкіх і байскіх элемэнтаў і іх суўдзельнікаў унутры партыі. У выніку гэтага часамі ўхіл да мясцовага нацыяналізму набы

вае на паасобных вучастках і ў паасобных раёнах асаблівую надзейнасьць. У гэтым мы ўпэўніваемся зараз на прыкладзе тэй-жа Беларусі, а таксама Украіны і раду іншых нацыянальных рэспублік.

Як вядома—на гэта таксама ня раз указваў тав. Сталін—сутнасьць ухілу да мясцовага нацыяналізму заключаецца перш за ўсё ў імкненьні абасобіцца і замкнуцца ў рамках сваёй нацыянальнай шкарлупы, затушаваць клясавыя супярэчнасьці ўнутры сваёй нацыі, адыйсьці ад агульнага патоку сацыялістычнага будаўніцтва, ня бачыць таго, што зьбліжае і злучае працоўныя масы нацыянальнасьцяй СССР і бачыць толькі тое, што можа іх аддаліць адну ад другой. Іменна ў гэтым кірунку і дзейнічае зараз ахвосьце разгромленых буржуазна-кулацкіх, нацдэмаўскіх і пятлюраўскіх банд і іх агенты ўнутры партыі, часта карыстаючыся клясавай сьлепатой мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый. Невыпадкова таму, што ў радзе раёнаў Беларусі, Украіны, Сярэдняй Азіі і Казакстану контррэвалюцыйныя нацыяналістычныя элемэнты і іх агенты прабавалі скарыстаць усе сродкі, у тым ліку школьныя катэдры, старонкі мясцовых часопісяй, падмосткі нацыянальных тэатраў для арганізацыі контррэвалюцыйнага сабатажу мерапрыемстваў партыі і ўраду.

Побач з гэтым яны пры простым папушчэньні некаторых мясцовых партыйных і савецкіх работнікаў імкнуцца проціпастаўляць інтарэсы асобных рэспублік інтарэсам усёй краіны, усяляк ігнараваць нацыянальныя мовы і нават прасьледваць за ўжываньне гэтых моваў. У Беларусі, напрыклад, аднаго настаўніка Сьціпура толькі за тое, што ён гутарыў з жонкай дома на расійскай мове, ухілісты да мясцовага нацыяналізму, падаграваныя нацдэмамі, ашальмавалі і абвінавацілі ў вялікарускім шавінізьме. Ці патрэбен яшчэ больш яркі прыклад беззаконасьці і грубейшага скажэньня ленінскай нацыянальнай палітыкі?

Кожны сумленны камуніст, кожны сьвядомы рабочы і калгасьнік дасканала ведаюць, што наша партыя і савецкая ўлада аказваюць усялякае падтрыманьне будаўніцтву сацыялістычнай нацыянальнай культуры, ставячы ў галаву вугла палітыку „зьбліжэньня пралетараў і поўпралетараў розных нацыянальнасьцяй для супольнай рэвалюцыйнай барацьбы...“ З праграмы УсеКП(б). Усякі іншы пункт гледжаньня зьяўляецца выгодным толькі нашым клясавым ворагам.

Ня можа быць сумненьня ў тым, што ўхілісты да мясцовага нацыяналізму, прыкрываючыся фальшыва-нацыянальным сьцягам, па сутнасьці справы абараняюць у сучасны пэрыяд клясавай барацьбы і ліквідацыі кулацтва, апошнія пазыцыі разгромленых, выбітых з эканамічнай каляіны буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных элемэнтаў, граючы на руку міжнародным імпэрыялістам, на руку інтэрвэнтам. Контррэвалюцыйная дзейнасьць усякага роду шавіністаў і ўхілістаў у нацыянальным пытаньні палягчаецца, а ў радзе выпадкаў аказваецца магчымай, перш за ўсё, у выніку невыстарчальнай рэвалюцыйнай пільнасьці, а часамі і грубых памылак мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый. Сапраўды, хіба не аб гэтым сьведчаць нядаўна апублікаваныя ў „Правде“ матар'ялы аб вылазках і дзеяньнях антысавецкіх эсэраўскіх, нацдэмаўскіх і бундаўскіх элемэнтаў у некаторых раёнах Беларусі і ў Сярэдняй Азіі? Усе факты, выкладаныя ў гэтых матар'ялах, сьведчаць, што мясцовыя партыйныя і савецкія арганізацыі не зразумелі новай тактыкі, новых манэўраў рэштак разьбітага кулацтва і аказаліся ў палоне мясцовых нацыяналістычных элемэнтаў і ўхілістаў да іх. І хіба, нарэшце, не аб гэтым-жа сьведчаць абураючыя факты грубейшага скажэньня ленінскай нацыянальнай палітыкі на Украіне. І тут у радзе раёнаў у рэзультаце прытупленьня клясавай пільнасьці, неразуменьня новых манэўраў рэштак разьбітых клясаў, недаацэнкі непарыўнай сувязі нацыянальнага пытаньня з сялянскім, атрымалася значнае аслабленьне барацьбы супроць ухілаў у нацыянальным пытаньні. У некаторых раёнах нацыянальная палітыка партыі праводзілася мэханічна, бяз уліку канкрэтных асаблівасьцяй, без неабходнай выхаваўчай работы і неабходнага кантролю, без аддаваньня належнай увагі справе падрыхтоўкі бальшавіцкіх кадраў. Усё гэта бязумоўна грала на руку буржуазна-кулацкім, пятлюраўскім элемэнтам, палягчаючы ім магчымасьць пралазіць у савецкі апарат, калгасы і г. д.

І тут дзе-ні-дзе была практыка пазбаўленьня нацыянальных меншасьцяй права карыстацца роднай мовай. А з боку паасобных кіруючых украінскіх работнікаў узмоцнена прапагандавалася шавіністычная ідэя аб абавязковай украінізацыі паасобных раёнаў СССР.

Гэта, вядома, таксама не магло ня граць на руку кулацкім і пятлюраўскім элемэнтам, якія акапаліся ў нова-украінізаваных раёнах па-за межамі УССР і вялі там разбуральную работу.

Клясавы вораг заўзята супраціўляецца пераможнаму будаўніцтву сацыялізму, накіроўваючы сваю зброю і супроць ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Задача партыйных арганізацый асабліва Украіны, Беларусі, Сярэдняй Азіі, Казакстану і інш. нацыянальных рэспублік і абласьцей, а таксама мясцовага друку—заключаецца ў тым, каб сваячасовым выкрыцьцём новай тактыкі і падкопаў клясавых ворагаў зрываць з іх маску і паказаць масам сапраўднае контррэвалюцыйнае аблічча буржуазна-кулацкіх, нацыяналістычных элемэнтаў, ухілістаў і прымірэнцаў да іх. Неабходна ўзмацніць практычнае правядзеньне ленінскай нацыянальнай палітыкі, забясьпечыць вытрыманымі кадрамі ўсе вучасткі нацыянальна-культурнага будаўніцтва, шырока разгарнуць інтэрнацыянальнае выхаваньне мас.

Завоюем новыя вышыні нацыянальнай па форме і сацыялістычнай па зьместу культуры народаў Савецкага саюзу.

**Вышэй сьцяг пралетарскага інтэрнацыяналізму!**

(Перадавая „**Правды**“).

---

**Даб'ем кулака, выганім лодыра з калгасных радоў, засеем добра і ў тэрмін, засеем увесь яравы клін.**

# Пакарылася зямля

(*Нарыс Сьцяпана Сямашка*)

Адразу, як толькі абвясьціў на сходзе старшыня калгасу аб тым, што трэба абраць аднаго дэлегата па Ўсебеларускі зьезд калгасьнікаў-ударнікаў,— з усіх куткоў пачуліся галасы:

— Натальлю!..

— Пасканай Натальлю!..

І аднагалосна была абрана Натальля. Абралі як лепшую ўдарніцу, як лепшага змагара за высокі сацыялістычны ўраджай. А запытайце ў самой яе, за што яна трапіла ў Менск на зьезд, дык Натальля скупа адкажа:

— Ударніцай лічуся... У нас шмат такіх, як я...

І крыху памаўчаўшы, з гонарам ужо—дадае:

— Вы от лепш запытайце, чаму нашаму калгасу далі месца на Ўсебеларускі зьезд калгасьнікаў-ударнікаў.

Натальля ганарыцца сваім калгасам. І ня толькі яна. Усе калгасьнікі і калгасьніцы калгасу імя Калініна ганарацца сваім жыцьцём калгасным, сваімі ўраджаямі.

Ды і ёсьць чым ганарыцца калінінцам. Дарма, што ў калгасе ўся зямля пясчаная, „неўраджайная“, а ўраджаі дае высокія параўнаўча з тымі, якія атрымоўваюць суседнія калгасы і аднаасобныя гаспадаркі. У мінулым (1932) годзе пачатак вясны няспрыяючым быў для жыта, шмат жыта выпрэла і сярэдні ўраджай яго па Чавускім раёне складаў 4—4,5 цэнтнераў з гэктара, у суседнім з калінінцамі калгасе імя Сталіна ўраджай жыта быў усяго толькі 3,4 цэнтнеры з *га*, а **калгас імя Калініна увяў з сваёй зямлі па 7,2 *цнт* добраякаснага жыта.**

— Ураджай жыта падкачаў у нас,—скардзіцца старшыня калгасу тав. Крываносаў,—але каб ня прынялі сваячовыя меры на згоне зімы, не прадзёрлі ледзяную скарынку ў жытнёвым полі, дыкбы і гэтага не атрымалі.

Ураджайнасьць ў калгасе імя Калініна павышаецца з году ў год. Калі, напрыклад, у 1931 годзе ўраджай пшаніцы быў 6,5 *цнт* з *га*, ячменю—8,5 *цнт*, бульбы—84 *цнт*, караньплодаў—96,8 *цнт*, дык у 1932 годзе калінінцы атрымалі: пшаніцы 13,5 *цнт* з *га*, ячменю—12,3 *цнт*, бульбы—104,5 *цнт*, караньплодаў—11,8 *цнт*, грэчкі (у 1931 г. яе зусім ня сеялі)—8,3 *цнт* з *га*. А суседні калгас імя Сталіна атрымаў з сваёй зямлі ў 1932 годзе: пшаніцы—10 *цнт*, бульбы—69 *цнт* і грэчкі—4,1 *цнт* з *га*.

— Праўду сказаў таварыш Якаўлеў, што няма дрэннай зямлі—ёсьць дрэнныя гаспадары,—гаворыць старшыня калгасу.—Кожная зямля можа даваць высокі ўраджай. Дай толькі зямлі, што трэба, вырабі яе як сьлед, дык і зямля не паскупіцца на ўраджай.

І такой думкі ўсе калгасьнікі калгасу Калініна. Ніводзін з іх ня скардзіцца на тое, што ўся іхняя зямля пясчаная і большая яе частка сыпучы пясок, якога цураліся раней гэтыя-ж самыя калгасьнікі, будучы аднаасобнікамі.

— Дагледзь зямлю, дык і зямля не паскупіцца на ўраджай.

І калінінцы даглядаюць зямлю, выконваюць яе запатрабаваньні. Абкружылі яе ўсімі агра-тэхнічнымі мерапрыемствамі, ды заўзятай бальшавіцкай працай і зямля пакарылася, зьмяніла свой твар. **Зяблевае ворыва, высокаякасная апрацоўка глебы, рацыянальнае выкарыстаньне ўсіх відаў угнаеньня, раньнія тэрміны сяўбы дабраякасным насеньнем, клапатлівы ўход за пасевамі на працягу ўсяго летняга пэрыяду,**—вось тыя сродкі барацьбы, шляхам якіх калінінцы змагаюцца за высокі сацыялістычны ўраджай.

Увесь пасеў яравых у гэтым годзе будзе праходзіць ў калгасе Калініна па зяблевым ворыве. Усё насеньне ссыпана, ачышчана і праверана на ўсхо-



Старшыня калгасу імя Калініна **Крываносаў**

жасьць; поўнасьцю вывезен зімою гной на поле. Завезена 1 вагон мінэральных угнаеньняў, сабрана 2,5 тоны хатняга попелу (збор попелу працягваецца). Адрамантаван увесь сельскагаспадарчы інвэнтар, машыны, збруя... 5 сакавіка адбыўся пробны выезд у поле. Выезд паказаў, што калгас Калініна хоць сёньня гатоў выступіць у поле праводзіць сяўбу.

— Сёлета павінен быць большы ўраджай, чым летась,—гаворыць старшыня тав. Крываносаў.

— Сорамна будзе, калі не даб'емся павышэньня... Навошта-ж мы тады і агратэхнічны гурток наведваем кожны тыдзень?..—дадае Натальля.

Калгас імя Калініна перадавы ў Чавускім раёне і па выкананьні ўсіх абавязацельстваў перад пралетарскай дзяржавай. Усе віды загатовак калгас выканаў датэрмінова з перавыкананьнем. Па пляну трэба было здаць збожжа—42 *цнт*, а здадзена—43,5 *цнт*; бульбы—400, здадзена—430,5; лёну-трасты—142,5 здадзена—207,5; ільнасемя — 15,5, здадзена—19,5 *цнт*. Па сену—зусім ня быў дадзен плян у зьвязку з тым, што калгас мае малочна-таварную фэрму, але ўсётакі калгас здаў дзяржаве 10 *цнт* сена. Па мясазагатоўках плян перавыканан у два разы. Таксама перавыканан плян і па здачы малака.



**Лапіцкая Арына**—ударніца калгасу імя Калініна. Былая батрачка. На выпрацаваныя з 12-гадовым сынам працадні—атрымала на 3 душы: 8 *цнт* жыта, 1,8 пшаніцы, 8,5 *цнт* бульбы, шмат іншага збожжа і 531 руб. грашмі.



Лепшая ўдарніца калгасу імя Калініна **Натальля Пасканай**—дэлегат усебеларускага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў.

У гонар раённага зьлёту калгасьнікаў-ударнікаў калгас прадаў дзяржаве 4,2 *цнт*, а калгасьнікі—4,5 *цнт* збожжа.

Калгасьнікі набылі на 2000 рублёў аблігацый пазыкі „Чацьвертага заключага" і датэрмінова ўнясьлі за іх грошы. За ўзорнае выкананьне фінпляну калгас прэміяван Наркамфінам БССР. Некалькі разоў калгас прэміяваўся раённым выканаўчым камітэтам.

Калгас імя Калініна зьяўляецца перадавым у Чавускім раёне ў разгортваньні калгаснага гандлю. Шмат прададзена бульбы, гародніны, мяса, яблык...

Дзякуючы настойлівай бальшавіцкай працы,— учарашнія батракі і беднякі ўзьняліся ўжо да ўзроўню сераднякоў. Пры разьмеркаваньні ўраджаю 1932 г. калінінцы шмат атрымалі на выпрацаваныя працадні. Былой батрачкі Арыны **Лапіцкай** не пазнаць. Раней працавала яна ў кулака да крывавага поту і галадала з дзяцьмі, а зараз яна калгасьніца-ударніца, сумесна з усімі калгасьнікамі будуе шчасьлівае жыцьцё. Зараз яна гаворыць:

— Наш таварыш Сталін сказаў, каб усіх калгасьнікаў зрабіць заможнымі... Дык мы скора і будзем гэткімі, абы толькі працавалі ўсе шчыра, ды берaглі калгаснае дабро. Трэба-ж такі колькі я атрымала!..

І Лапіцкая Арына мае рацыю так гаварыць. Пры разьмеркаваньні ўраджаю на выпрацаваныя ёю і яе 12-гадовым хлапчуком яна атрымала на 3 душы 8 *цнт* жыта, 1,8 *цнт* пшаніцы, 2,5 *цнт* ячменю, 8,5 *цнт* бульбы, 2 *цнт* грэчкі, 531 руб. 53 кап. грашмі і іншых прадуктгў. Такія-ж паказчыкі разьмеркаваньня ўраджаю і ў астатніх калгасьнікаў, якія добрасумленна працуюць.

А беднякі і серадннякі з ваколічных вёсак пільна сочуць за жыцьцём калгасу, кожны год прыходзяць паслухаць на сходзе колькі хто атрымлівае з ураджаю. Сочуць за жыцьцём калгасьнікаў і парываюць з дробнай аднаасобнай гаспадаркай, руйнуюць дзедаўскія межы, што стагодзьдзямі сьціскалі іх жыцьцё,—ідуць у калгас. Кожны год у калгас Калініна паступае шмат заяў ад беднякоў і серадняков суседніх вёсак аб прыёме ў калгас.

Пры арганізацыі (1929 г.) калгасу налічвалася ўсяго толькі 16 гаспадарак, а зараз калгас аб'ядноўвае 72 гаспадаркі. У мінулым месяцы калгас атрымаў яшчэ 15 заяў ад аднаасобнікаў аб прыёме ў калгасе.

— Ох, як цяжка было спачатку арганізацыі калгасу,—гаворыць арганізатар калгасу т. Крываносаў.—Кулакі гадзінамі сыкалі на нас, пускалі ўсялякія чуткі, пужалі голадам... Потым шкодзілі ўнутры калгасу... Але нічога, мы перамаглі. Шкоднікаў і падкулачнікаў выкінулі з калгасу, узьнялі працоўную дысцыпліну. Галоўнае навошта мы нажываем цяперака—гэта на падняцьце ўраджайнасьці.

... І калі выбіралі калінінцы Натальлю дэлегатам на Ўсебеларускі зьезд калгасьнікаў-ударнікаў,—усе як адзін далі наказ:

— Раскажы там на зьезьдзе ў Менску, як мы жывём і які ў нас цяперака на пясках ураджай. Хай ведаюць усе.



**Натальля Ждановіч**—лепшая калгасьніца-ўдарніца калгасу „Новы сьвет“, Менскага раёну. За добры догляд калгасных кароў т. Ждановіч тры разы прэміявана.

# „Вось калі я заможнаю стала“

Маладая 22-х гадовая калгасьніца—дэлегат першага Ўсебеларускага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў—Вера Лысак кажа:

— Я ўступіла ў калгас „Чырвоная Зорка“, Хадкаўскага сельсавету (Глускі раён), з першай арганізацыі яго. Як пашла на работу калектыўна, дык хатнія суседзі navaліліся на мяне: „Куды, кажуць, пашла?.. Свайго цураешся...

— У мяне свайго дому ня было, сіратою я жыла, у браціхі прытулак мела. А як уступіла ў калгас, дык з хаты выгналі. Аднаго разу, як я кароў даіла ў калгасе, прыбеглі да мяне і кажуць:

— Бяжы, Верка, хутчэй да хаты, бо твой куфэрак на вуліцу выкінулі... Да таго ўвесь час батрачкай была. Кавалку хлеба была жадна. Так і чакала, каб хто даў работу і мажлівасьць пражыць. О-ох, як цяжка было!..

Моцна я калгасу трымалася. Усяго толькі некалькі гаспадарак засталося. Кулакі і заможнікі так усходзіліся,—хацелі разбурыць наш калгас. Цяжкі быў час, але мы вытрымалі, не далі калгасу разваліцца.

А цяпер ўжо і трывала на ногі сталі. Вось я ў калгасе 216 працадзён выпрацавала, кароў догля-



Лепшыя калгасьнікі-ўдарнікі калгасу „Калініна“, Чавускага раёну: Мухін, Скаварада, Перапечкін, Мінкоў, Арлоў, Ушакоў, Сямашка і Аўчукоў.

даючы: на працадні атрымала 50 пудоў збожжа, 4 вазы бульбы і інш. Бульбу ўсю яшчэ не атрымала, бо яе прыпадае дзьве сотні пудоў. Я гэтулькі збожжа і бульбы спрадвеку ня мела. Ня мелі і ня маюць столькі і другія бедвякі нашай вёскі Касарычы. Вось калі я заможнаю стала. І хлеб, і бульбы маю, і сала з малаком ня выводзіцца.

Ну як ня жыць, як не радавацца гэтаму вясёламу і сьветламу жыцьцю, якое нам дала савецкая ўлада! Цяпер мне завідуюць нашы суседзі—аднаасобнікі, а я кажу: „Чаму-ж вам ня быць такімі“. У нашым калгасе такіх, як я, ёсьць дзесяткі.

Праўда, ёсьць і лодыр. Завуць яго Рыгор Прастак. Ён цэлае лета і зіму круціўся і шлындаў у Бабруйску, Глуску, быў на чыгунцы, а зараз прышоў ды хлеба просіць. Наша праўленьне і калгасьнік Рыгору кажуць: „лета праспаў, дык будзь бяз хлеба. Гультаёў нам ня трэба“.

Я тут успамінаю словы, якія гаварылі нам на зьезьдзе: „лодыру і прагульшчыку—няма ні кавалка хлеба, ні вугла ў калгасе“. Яно так і трэба,—закончыла Вера.

**Мікола Шэшка.**



Тав. Касьцялецкая—член камуны „Бальшавік“ (Менскага раёну), ударніца, была на Усесаюзным зьезьдзе калгасьнікаў-ударнікаў.

# ПАРФЕН ТОДАРАВІЧ АПАВЯДАЕ

Не хваліўшыся, можна сказаць, што нашы коні цяпер лепшыя за ўсіх у раёне,—кажа старшыня калгасу **„Кастрычнік“**, Гуркоўскага сельсавету, Брагінскага раёну, тав. **Бялоў Парфен Тодаравіч.** На 54 двары мы маем 103 коні, з якіх 80 рабочых, а астатнія—маладняк. Шасьцёра коняй, з іх адзін племяны жарабец і пяць племяных кабыліц, вышэй сярэдняй упітанасьці, а ўсе астатнія коні сярэдняй упітанасьці. **Зьбітага і змуленага ў нас няма ніводнага каня.**

Коні нашы стаяць у новым, сьветлым хляве, які пабудаван у 1932 годзе на 100 галоў. Да кожнага мужчыны-калгасьніка ў нас прымацавана пара рабочых коняй і ўвесь патрэбны інвэнтар і збруя. Коні чысьцяцца праз два дні. Зразумела, што гэтага мала, іх трэба чысьціць кожны дзень, але ў нас пакуль што не хапае шчотак.

Нашы конюхі клапатліва і беражліва адносяцца да коняй, своячасова кормяць і пояць. Старшы конюх тав. **Скрабук Антон сам недасьпіць, недаесьць, але коні ў яго заўсёды ў парадку.** Тав. **Скрабук** працуе конюхам ужо трэці год, мае добры вопыт і мы яго, як лепшага ўдарніка, прэміявалі 50 рублямі і адрэзам матэрыі на штаны.

Быў у нас на канюшні разгільдзяй **Зелянкоўскі Міхась.** Ён абкарміў жарабца і той прапаў. За гэта мы яго выключылі з калгасу, зьнялі 10 проц. з агульнае колькасьці выпрацаваных ім працадзён і справа аб ім перададзена сьледчым органам.

Рыхтуючыся да пасеўнай кампаніі, мы пастанавілі „забараніць асабістыя паездкі на конях бяз уважлівых прычын“. Конь з канюшні выдаецца толькі з дазволу брыгадзіра і старшыні калгасу. **Гультаям і прагульшчыкам—зусім не даем коняй для асабістых паездак.**

Быў выпадак, калі калгасьнік **Зелянкоўскі Усьцін** бяз ведама брыгадзіра сам узяў племяную кабыліцу і паехаў па асабістых справах. За такую справу мы абвясьцілі яму суровую вымову з папярэджаньнем. На час веснавой сяўбы ў нас забраніявана звыш 100 *цнт* добраякаснага сена. Вось толькі аўса малавата, усяго 17 *цнт.* Аднак, думаем, што на сваіх конях веснавую сяўбу мы правядзем раней вызначанага ўрадам тэрміну.

**Коні нашы здаровыя, упітаныя, а гэта—самая рашаючая зброя ў барацьбе за бальшавіцкую сяўбу.**

Н.

# КАМАНДЗІР ПЕРАДАВОЙ БРЫГАДЫ

**Баркун** Лявон Ісакавіч вельмі скуп на словы, калі ў яго распытваеш, як ён раней жыў. Ён ня хоча ўспамінаць даўнейшага, ня хоча чапаць таго, што так балюча адбілася на яго жыцьці. Ды і ня дзіва. Доўгія гады—пачынаючы з маленства—цяжкай працы ў кулакоў і заможнікаў, паўгалоднае становішча, разуты і раздзеты—вось даўнейшае жыцьцё Баркуна Лявона.

— Ат, колам яна ў зямлю хай даўнейшае, тое, што давялося перажыць,—гаворыць тав. Баркун.

Затое, шмат чаго можа расказаць т. Баркун аб сваім калгасе, аб брыгадзе, якой ён к і р у е. Лявон Ісакавіч з гонарам расказвае аб тым, як ён разам з перадавой часткай беднаты і сераднякоў арганізавалі ў 1928 годзе ў Каменалаўскім сельсавеце калгас „Прыют“.



**Лепскі Мікола**—ударнік калгасу імя Варашылава, Менскага раёну, даглядае коняй у калгасе. За ўзорную пастаноўку работы на канюшні і ўход за конямі—прэміраван.

— Цяжка было!.. Кулакі шкодзілі на кожным кроку, старалiся разбурыць м а л а д ы калгас, розную хлусьню распускалі па ваколічных вёсках... Але нічога, мы перамаглі.

І ня толькі перамаглі калгасьнікі пры арганізацыі калгасу. Адданыя калгаснай вытворчасьці, сваёй бальшавіцкай працай, яны паказалі ваколічнаму працоўнаму сялянству, што толькі калектыўна можна пабудаваць шчасьлівае жыцьцё для працоўнага селяніна. У калгас пачалі паступаць заявы ад беднякоў і сераднякоў аб прыёме іх у калгас. З 14 гаспадарак калгас вырас да 53.

— Зараз таксама шмат падаюць заяў нам у калгас—гаворыць тав. Баркун.—Мы, канешне, не адмаўляем бедняку і серадняку, але пільна сочым за тым, каб ня трапіў у калгас кулак і шкоднік, бо ведаем, што клясавы вораг зьмяніў сваю тактыку барацьбы супроць калгасьнікаў.

„Прыют“ хаця і не вялікі калгас, але моцны, перадавым лічыцца па Шклоўскім раёне. Не дарма-ж атрымаў ён месца і на Ўсесаюзны і на Ўсебеларускі зьезды калгасьнікаў-ударнікаў, дэлегатам якіх калгасьнікі абралі тав. Баркуна Лявона.

Абралі тав. Баркуна дэлегатам у Маскву і ў Менск, як лепшага ўдарніка ў калгасе, як лепшага брыгадзіра паляводчай брыгады. Брыгада т. Баркуна лічыцца передавой у калгасе „Прыют“, сыстэматычна перавыконвае свае вытворчыя заданьні. Сяўбой, доглядам за пасевамі і ўборкай ураджаю ў мінулым, 1932 годзе, асабліва наглядна паказала Баркунова брыгада, як трэба змагацца за паўшаньне калгаснай вытворчасьці, як трэба змагацца за сацыялістычны ўраджай. У Баркуновай брыгадзе ўраджай, напрыклад, ільну быў вышэй на 10—15 проц., чым у астатніх брыгадах гэтага-ж калгасу. Брыгада першай у калгасе ўбрала лён на сваім вучастку і дапамагала астатнім брыгадам гэтага-ж калгасу.

— У брыгадзе павінна быць дысцыпліна і добры камандзір, тады справа будзе ісьці, як належа быць, от так, як у Чырвонай арміі... Ого там!—кажа тав. Баркун.

Калі ўспамінае тав. Баркун Чырвоную армію—гарыць агнём, прагнасьць вялікую мае да гаворкі. Ён можа намаляваць вам цэлую карціну аб тым, як ён разам з тав. Будзённым змагаліся з белабандытамі ў грамадзянскую вайну.

— Далі мы тады ім!.. От такі-ж руйнуючы ўдар мы павінны нанесьці і астаткам кулацтва,—з запалам гаворыць ён.

Да веснавой сяўбы брыгада тав. Баркуна гатова хоць сёньня. Увесь сельскагаспадарчы інвэнтар адрамантаван у студзені месяцы, за брыгадай замацаваны коні. Брыгада ведае свой вучастак зямлі, на якім будзе працаваць, ёсьць канкрэтны плян правядзеньня веснавой сяўбы.

— Усю веснавую сяўбу мая брыгада скончыць да 25 мая. Намецілі так мы па пляну і выканаем, бо кожная гадзіна ў нас на вучоце, усё прадугледжана ў пляне. Кожны калгасьнік маёй брыгады ведае, што і калі яму рабіць у час сяўбы,—заканчвае тав. Баркун.

**С—ка.**

# Радзівон Іванавіч

Трэцім дэлегатам на першы Ўсебеларускі зьезд калгасьнікаў-ударнікаў прыбыў з калгасу „Чырвоны Сьцяг“, Буда-Кашалёўскага раёну—**Кажэўнікаў** Радзівон Іванавіч.

Ен весел. З упэўненасьцю адказвае на запытаньні абступіўшых яго работнікаў цэнтральных газэт.

Па гадох ён не стары яшчэ, на чацьвёрты дзесятак пераваліла. Але шмат чаго пасьпеў перажыць. Да 1915 г. быў батраком. З самага раньня і да позьняй ночы працаваў у пана і кулака. Заўсёды хадзіў абадраны і галодны.

— Давялося перажыць усяго... За людзей ня лічылі паны і кулакі батракоў, гаворыць т. Кажэўнікаў.

Таварыш Кажэўнікаў былы партызан. Быў камандзірам узвода ў партызанскім атрадзе. Потым ў Чырвонай арміі... На франтох... Змагаўся за заваёвы Кастрычніка.

— Як прышло нас некалькі чалавек з арміі, дык адразу парашылі арганізаваць у сваёй вёсцы калгас,—апавядае т. Кажэўнікаў.

Вакол арганізацыі калгасу адбывалася жорсткая клясавая барацьба. Калгас два разы арганізоўваўся і два разы распадаўся.

І толькі ў 1931 годзе правёўшы карэнную праверку сацыяльнага становішча кожнага падаўшага заяву, былым чырвонаармейцам, пры дапамозе

беднякоў і пад кіраўніцтвам мясцовай партарганізацыі,—удалося арганізаваць калгас „Чырвоны Сьцяг“.

Наперакор клясавым ворагам, на вачох усіх сялян калгас штодзенна рос і ўмацоўваўся. З дванаццаці гаспадарак калгас вырас да 45 бядняцкасераднякоў гаспадарак.

Да веснавой сяўбы калгас падрыхтаваны поўнасьцю. Насеньне ачышчана, адсартавана і засыпана з перавыкананьнем. Сельскагаспадарчы інвэнтар адрамантаваны. Складзены сталыя вытворчыя брыгады. Ліквідавана абязьлічка. Гною патрэбна была вывезьці 720 вазоў, а вывезена 740. Прычым увесь гной вывезен на поле зімою. Сабрана 1 тона попелу.

Для аховы маемасьці калгасьнікі вылучылі ў якасьці вартаўніка лепшага ўдарніка—былога батрака—**Чарнякова** Пракопа.

— Мы ахоўваем сваю маемасьць, як зяніцу вока,—кажа тав. Кажэўнікаў.

Калгасьнікі калгасу „Чырвоны сьцяг“ сапраўды па-бальшавіцку змагаюцца за падняцьце калгаснай вытворчасьці. І дзякуючы гэтаму паляпшаецца дабрабыт калгасьнікаў. Напрыклад т. **Кажэўнікаў** выпрацаваў у 1932 г. 413 працадзён. За гэта ён атрымаў: 7,3 *цнт* збожжа, 51,5 *цнт* бульбы, 4,2 *цнт* капусты і 413 руб. грашыма.

— Я ніколі ня думаў, што буду так добра жыць,—гаворыць ён.

Апрача ўдарнай работы ў калгасе, тав. Кажэўнікаў зьяўляецца адным з лепшым грамадзкіх работнікаў. Ён рэалізаваў сярод калгасьнікаў аблігацый пазыкі „4-ты завяршаючы“ на суму 500 руб. Асабіста падпісаўся на 100 руб. Актыўна дапамагаў



т. **Трушкевіч**—лепшы ўдарнік калгасу імя Дзяржынскага, Менскага раёну — дэлегат Усесаюзнага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў.

сельсавету ў барацьбе з кулацкім сабатажам у загатоўках.

І калі калгас „Чырвоны Сьцяг“, як адзін з лепшых калгасаў у раёне, атрымаў месца на першы Усебеларускі зьезд калгасьнікаў ударнікаў, калгас накіраваў аднаго з лепшых сваіх ударнікаў т. **Кажэўнікава**, тры разы прэміяванага за ўдарную працу.

**Т. Альпяровіч.**

# *УСЕБЕЛАРУСКІ СЬПІС ГОНАРУ*

## Заносім у сьпіс лепшых змагароў за сацыялістычны ўраджай

(*Праця́г. Гл. № 5—6*)

Сярэдні ўраджай **па Клічаўскім раёне** у 1932 г. выражаецца ў наступных лічбах з *га*: жыта—3,2 *цнт*, пшаніцы—4,5 *цнт*, аўсу—2,7 *цнт*, ячменю—5 *цнт*, бульбы—65 *цнт* і лёну—0,7 *цнт*. Рад калгасаў дамогся значнага павялічэньня ўраджайнасьці сваіх палёў. Так,

43) **калгас „Наша праца“** Клічаўскага сельсавету, на аснове правядзеньня максымуму агратэхнічных мерапрыемств у 1932 г. сабраў наступны ураджай: пшаніцы 7,9 з *га*, жыта 5,3 *цнт*, ячменю—10 *цнт*, бульбы—96,5 *цнт* і лёну—1,9 *цнт*. Калгас засяваў сваю плошчу толькі старанна ачышчаным, пратручаным насеньнем. Усе палі былі забясьпечаны ўгнаеньнем.

Калгас адным з першых у раёне выканаў свае абавязкі перад дзяржавай;

44) **калгас „Абуджэньне“** Востраўскага сельсавету дамогся самага найбольшага ўраджаю ва ўсім Клічаўскім раёне. У лічбах **з** *га* па паасобных культурах мы маем наступны малюнак: жыта—7,5 *цнт*, пшаніцы—8,9 *цнт*. ячменю—11,2 *цнт*, бульбы—95 *цнт* і лёну—1,6 *цнт* з *га*;

45) **калгас „Чырвоны Востраў“** Востраўскага сельсавету дзякуючы ўнядрэньні агратэхнікі таксама дабіўся павышэньня ўраджайнасьці. Так, ячмень даў 11,6 *цнт* з *га*, жыта—5 *цнт*, бульбы—90 *цнт* і лёну—1,2 *цнт*;

46) **калгас „Баявік“, Капыльскага раёну** ў 1931 г. атрымаў усяго толькі: жыта—4,1 *цнт* з *га*, пшаніцы—4,58 *цнт*, ячменю—6,8 *цнт*, аўсу—5,8 *цнт*.

Дзякуючы прымяненьню раду агратэхнічных мерапрыемств (зяблівае ворыва, раньняя сяўба, радковы пасеў), „Баявік“ дамогся ў 1932 годзе значнага павялічэньня ўраджайнасьці сваіх палёў. Так з *га* атрымана: жыта—7,1 *цнт*, пшаніцы 8,6 *цнт*, ячменю—12,27 *цнт*, аўсу—6,7 *цнт*, гароху—9,1 *цнт*, вікі—9,29 *цнт*, бульбы—137 *цнт* і карняплодаў—272,2 *цнт*.

52) **Калгас імя Літвінава,** Бабруйскага раёну, дзякуючы высокаякаснай апрацоўцы глебы у 1932 г. дамогся значнага павышэньня ўраджайнасьці. Так з *га* атрымана: жыта—11 *цнт*, пшаніцы—12 *цнт*, ячменю—13 *цнт* і бульбы—130 *цнт*.

53) **Калгас імя Якаўлева** сапраўды па-бальшавіцку праводзіць барацьбу за сацыялістычны ўраджай. Так, у 1932 г. атрымана наступны ўраджай з *га*: жыта—9,42 *цнт*, пшаніцы—19,3 *цнт*, ячменю—17,6 *цнт* і аўсу—10,3 *цнт*.

54) **У калгасе імя Калініна**, Чавускага раёну зямля пяшчаная „неўраджайная“—дае параўнальна з суседнімі калгасамі высокія ўраджаі. Так у 1932 г. сярэдні ўраджай жыта па Чавускім раёне складаў—4—4,5 *цнт* з *га*, а калгас імя Калініна атрымаў 7,2 *цнт*, жыта, пшаніцы—13,5 *цнт*, ячменю—12,3 *цнт*, бульбы—104,5 *цнт*, карняплодаў—111,8 *цнт* і грэчкі—8,3 *цнт*.

# ПРЫМУСІМ ЗЯМЛЮ ДАВАЦЬ УРАДЖАЙ!

## У НАС УСЁ ЁСЬЦЬ — ЗЯМЛЯ, ТРАКТАРЫ, КОНІ, СЕЛЬГАСМАШЫНЫ, НАСЕНЬНЕ. ЗАБЯСЬПЕЧЫЦЬ ПОСЬПЕХ ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ ЗАЛЕЖЫЦЬ ТОЛЬКІ АД НАС.

## Павысім ураджайнасьць ільну

Павышэньне ўраджайнасьці зьяўляецца цэнтральнай задачай у сельскай гаспадарцы ў даны момант. Посьпехі калектывізацыі стварылі спрыяючыя ўмовы для вырашэньня гэтай задачы. Толькі ў буйнай калектыўнай гаспадарцы, забясьпечанай навейшымі прыладамі апрацоўкі зямлі, можна разгарнуць сыстэматычную барацьбу са шкоднікамі ўсіх культур на падставе правядзеньня агратэхнічных мерапрыемстваў.

Змагаючыся са шкоднікамі лёну, вялікае значэньне набывае ачыстка насеннага матар'ялу. Поле, засеянае добраякасным насеньнем, забясьпечвае значны адсеў пустазельля і шкоднікаў лёну, пры гэтым значна палягчае працу пры праполцы.

Вясна зьяўляецца адказьнейшым рашаючым пэрыядам у справе барацьбы са шкоднікамі. Пры дастатковай пільнасьці шкоднікі могуць быць зьнішчаны ў пачатку іх шкоднай дзейнасьці, або яшчэ раней, калі яны не прачнуліся ад зімовай сьпячкі. Трэба асабліва сачыць, каб насеньне пустазельля не трапляла ў гной і кампост, і каб апошнія вывазіліся ў поле добра перапрэлымі.

Адным з распаўсюджаных пустазельных траў зьяўляецца **ільняны жыцік**; насеньне яго цяжка вызначыць ад насеньня ільну. Сартаваньне насеньня, поліва і зяблівае ўзорваньне—такія меры барацьбы з ільняным жыцікам.

Другім шкодным пустазельлем зьяўляецца **ільняная павітуха.** Яна ня мае свайго карэньня і прымацоўваецца асобнымі зубчыкамі да сьцябла ільну і высмоктвае спажыўныя сокі ільну. Гэта пустазельле зьяўляецца найбольш шкодным для лёну.

Раньнія пасевы лёну больш устойлівы ад нападу шкоднікаў і асабліва ўстойлівы ад шкодніка **саўкі-гамы.** Саўка-гама (матыль) шэра-бурага колеру з срэбным значком на пярэдніх крыльлях. Зьяўляецца яна вясною ў канцы чэрвеня і нападае галоўным чынам на лён. Лётаючы ўдзень і ўвечары, яна адкладвае свае яечкі на пустазельлі—сьвірэпцы, лебядзе—на ніжніх баках маладога лісьця. З сьветлазялёных яечак выдзяляецца вусень, які праз кароткі час пераходзіць на іншыя расьліны. Больш дарослы вусень мае зелёнавата-жоўты колер з сьветлымі палоскамі на сьпіне і па баках, і мае 12 ног. Вусені соўкі-гамы жывуць каля месяца, потым сьплятаюць з павуціньня сьветлыя капшучкі і пераўтвараюцца ў лялечкі. Праз 1—2 тыдні вылятаюць матылі другога пакаленьня, якія зноў адкладваюць яечкі. А калі выведуцца вусені апошнія матылі ўваходзяць у зямлю, і зімуюць там у лялечках.

Зазімаваўшыя ў глебе лялечкі соўкі-гамы зьнішчаюцца глыбокім узорваньнем на зіму. Каб зьнішчыць соўку-гаму, тады калі лён пачынае расьці, трэба ўтвараць апырскваньне яго хлёрыстым барыем, якога бярэцца 300—400 гр. на вядро вады. Можна абпырскваць і парыскай зеленьню.

**Лугавы матыль** зімуе ў асобных капшучках у зямлі, і калі пачынаецца вясна, гэтыя капшучкі трэскаюцца (лялькуюцца) і з іх вылятаюць матылі сьветла-карычневага колеру. Матылі кладуць жоўтыя яечкі на пустазельле, на лён і іншыя расьліны. Вусені гэтага шкодніка шэра-зялёнага колеру з цьмянымі палоскамі ўздоўж сьпіны, нападаюць на маладую расьліну ільну і могуць зьнішчыць цэлыя гэктары пасеву. Дарослыя вусені хаваюцца ў зямлі, робяць капшукі, лялькуюцца і ў канцы ліпеня зьяўляюцца матылі другога пакаленьня. Каб зьнішчыць гэтага вусеня, трэба глыбока ўзорваць на зіму, апырскваць маладую рунь ільну хлёрыстым натрыем (60 грам на 11 літраў вады), парыскай зеленьню.

Калі на ільняным полі зьявяцца шкоднікі, як соўка-гама, альбо лугавы матыль і каб ня даць магчымасьці заразіць шкоднікамі значна большыя плошчы ільну,—трэба неадкладна агарадзіць незаражаныя вучасткі канаўкамі глыбінёю ў 20—25 *см* (лепш усяго плугам). Для зьнішчэньня вусеняў, папаўшых у баразну-канаўку, раскідаюцца ў кучкі кармавыя расьліны, змочаныя ў рашчыне мышаковістага натра, або парыскай зелені ў колькасьці 20 гр. на 10 літраў вады.

Адным з злейшых ворагаў ільну зьяўляецца хвароба яго—іржаўшчына. На верхніх маладых лістках ільну зьяўляюцца купкі пылючых грыбкоў (спор), якія прарастаюць у нутро самой расьліны і гэтым губяць валакно. Пасьля гэтага зьяўляюцца зімовыя грыбкі на ніжніх частках лісьцяў і вузлох у выглядзе чорных плям, якія потым нападаюць на насеньне ільну і разам з ім уносяцца ў глебу. І калі перад сяўбой, не ачысьціўшы і не пратруціўшы такое насеньне, праз кароткі час можа заразіцца ўвесь пасеў і загінуць.

Трэба абавязкова рабіць пратручваньне насеньня ільну 15-процантнай рашчынай фармаліну, якога можна дастаць у кожнага агранома і на станцыях па пратручваньні.

**М. Людчык.**

# Дабраякасна апрацуем глебу

Барацьба за ўнядрэньне агратэхнікі—зьяўляецца барацьбой за павышэньне ўраджайнасьці.

Пачынаючы з апрацоўкі глебы і канчаючы ўборкай ураджаю трэба поўнасьцю выконваць агратэхнічныя мерапрыемствы. Напрыклад калгас „Інтэрнацыянал" Гомельскага раёну добра апрацаваў глебу і правёў іншыя агратэхнічныя мерапрыемствы і атрымаў з 1 *га* 4,32 *цнт* ільнавалакна і 3,1 *цнт* насеньня. Калгас „1 мая" таго-ж раёну з 1 *га* 6 *цнт* ільнавалакна і 4,7 *цнт* насеньня.

Апрацоўваць глебу трэба так, каб забясьпечыць лепшае раствараньне арганічных матэрый глебы, больш накапіць вільгаці, зьнішчыць пустазельле і даць добры доступ паветру да карнявых частак.

**Лушчэньне глебы пад лён.** Для больш пасьпяховага зьнішчэньня пустазельля і лепшага накапленьня вільгаці ў глебе, усе мяккія глебы, якія прадназначаны пад лён, патрэбна узлушчаць на глыбіню 6—8 *см* зараз-жа пасьля ўборкі папярэдніх культур (збожжавых і лёну). Лушчэньне канюшынішча вытвараецца тады толькі, калі яно вельмі засьмечана.

Асноўную ўспашку пад лён трэба ўтвараць з восені на зяб. Пры асеньняй успашцы лепш раствараюцца арганічныя матэрыі, зьнішчаецца праросшае пасьля лушчэньня пустазельле і лепш захоўваецца вільгаць.

Досьледы паказалі, што асеньняя ўспашка павялічвае ўраджай ільну ў сярэднім да 20 проц., пры гэтым паляпшаецца якасьць валакна і разгружаецца больш напружаны пэрыяд сельскагаспадарчых работ вясной.

Зяблівая ўспашка зьяўляецца абавязковай для ўсіх ільнаводчых гаспадарак у барацьбе за высокую ўраджайнасьць.

Веснавая ўспашка ўтвараецца раньняй вясной, як толькі будзе магчымасьць выехаць у поле. Успашка робіцца на поўную глыбіню ў сярэднім 12—15 *см*, але нельга вываварачваць на паверхню падзолістай зямлі, бо падзол вельмі зьнізіць ураджайнасьць ільну. Калі пасьля асноўнага веснавога ворыва глеба будзе глыбістай (з вялікімі камякамі), то патрэбна яе перабаранаваць, каб параўняць паверхню пахаці і ня даць глебе высушвацца.

Прадпасеўная апрацоўка глебы пад лён зьяўляецца адным з зьвеньняў, накіраваных на павышэньне ўраджайнасьці. Яна складае неразрыўны комплекс апрацоўкі глебы і зьяўляецца абавязковай для ўсіх гаспадарак.

Раньняй вясной, як толькі пачне прасыхаць глеба і магчыма будзе выехаць у поле, усе землі, успаханыя на зяб, неабходна перабаранаваць зубковымі баронамі тыпу „Ліна", або „Зіг-заг". А калі ў гаспадарцы няма гэтых барон, баранаваньне ўтвараецца дзеравянымі баронамі з жалезнымі зуб'ямі. Баранаваньнем разрыхляецца верхні, ўшчыльнішыйся пласт глебы, захоўваецца вільгаць у глебе, дае вольны доступ паветра ў глебу, хутчэй глеба прагрэецца.

Раньняе баранаваньне дае магчымасьць хутчэй прарасьці пустазельлю і зьнішчыць яго пасьледуючай апрацоўкай.

Пасьля баранаваньня ўтвараецца больш глыбокае рыхленьне глебы дыскавым культыватарам, лушчальнікам і інш. Гэтае рыхленьне ўтвараецца на глыбіню 6—8 *см*. На задзярнелых глебах лепш ужываць дыскавую барану, якая не выварачвае на паверхню дзёрн.

На балотных і тарфяных глебах, якія вышлі з-пад раскарчовак, на канюшынішчы і залежах, узораных увосень першым арудзьдзем веснавой апрацоўкі пускаюць дыскавыя бароны з наступным баранаваньнем зубовымі баронамі, пры гэтым першы сьлед дыскавай бараны робіцца ўздоўж пласта, а другі—упоперак. Гэтым дасягаецца лепшае разрэзваньне і крышэньне пласта і дзёрн не выварачваецца на паверхню глебы.

Для выраўніваньня паверхні і атрыманьня больш поўных усходаў, перад пасевам неабходна ўтвараць пракатваньне глебы. На пракатаных глебах усходы атрымліваюцца раней і раўней. Акрамя таго, роўная глеба дае магчымасьць палегчыць мэханізацыю ўборкі. Машына на выраўненай глебе больш устойліва працуе, захапляе лён на аднолькавай вышыні.

Пракатваньне перад пасевамі ўноў асвоеных зямель, цалінных і канюшынішч утвараецца цяжкімі гладкімі каткамі, якія лепш ушчыльняюць дзярніну. На вельмі разрыхлёных тарфяных і пясчаных глебах ужываюцца кольчатыя каткі. На тарфяных глебах пасьля пасеву патрэбна ўжываць цяжкія гладкія каткі.

Вельмі засьмечаныя пустазельлем глебы неабходна перад пасевам рыхліць два разы, каб зьнішчыць пустазельле.

Усе пералічаныя спосабы апрацоўкі глебы неабходна абгаварваць у кожнай гаспадарцы, на кожным вытворчым вучастку, канкрэтызаваць іх, выходзячы з глебавых асаблівасьцяй з тым, каб усе члены брыгады ведалі, як яны павінны апрацоўваць глебу, якімі прыладамі і г. д. Правёўшы своечасова падрыхтоўку глебы, унясеньне ўгнаеньня—дасьць магчымасьць утвараць сяўбу ў раньнія тэрм ны, што будзе зьяўляцца магутнейшым сродкам барацьбы за павышэньне ўраджайнасьці.

Якасьць работы ва ўсіх працэсах, поўнае ўжываньне ўсіх агратэхнічных мерапрыемстваў—галоўнейшае ў правядзеньні веснавой сяўбы. Бяз гэтага нельга дабіцца высокага ўраджаю. **Н. Б.**



Камсамолец-конюх тав. **Ядына** калгасу „Кім" Чырвона-Слабодзкага раёну.

# Як павысіць ураджай аўсу і ячменю на балотных глебах

**(па досьледах саўгасу імя Х-годзьдзя БССР)**

На балотных глебах амаль заўсёды вырастае высокі і густы авёс і ячмень, але вельмі часта бывае нізкі ўраджай зерня. Ня гледзячы на густую і высокую салому, зерне бывае шчуплае (ня поўнае), ці зусім пустое.

Зьявішча пустазёрнасьці і шчупласьці зерня аўсу і ячменю, вырашчаных на балотных глебах, выклікаецца хваробаю, якая носіць назву **„хваробы апрацоўкі глебы“**. У гэтую веснавую сяўбу ўсімі саўгасамі і калгасамі павінны быць накіраваны ўсе агратэхнічныя мерапрыемствы на зьнішчэньне прычын, якія выклікаюць „хваробы апрацоўкі глебы“.

Па досьледам і назіраньням ў саўгасе імя Х-годзьдзя БССР гэтыя мерапрыемствы павінны зводзіцца к наступнаму:

**Па-першае**, найбольш раньнія тэрміны пасеву (першая дэкада мая). Пры пасеве аўсу ў 1-ю дэкаду мая атрымліваўся ўраджай 15 цэнтн. і больш зерня з *га*; пры пасеве-ж ў 3-й дэкадзе мая, атрымліваўся ўраджай 6—7 цэнтн. зерня з *га* і па якасьці горшае. Пры пасеве-ж аўсу ў 1-й дэкадзе чэрвеня зерне бывае вельмі часта зусім пустое. Тэрмін пасеву аўсу на балоце мае рашаючае значэньне ў сэнсе ўраджаю. Таму, як-мага хутчэй патрэбна сеяць авёс.

**Другім** агратэхнічным мерапрыемствам супроць „хваробы апрацоўкі глебы“—зьяўляецца правільная апрацоўка глебы. Досьледамі ўстаноўлена, што на вельмі пухкай глебе, якая бывае больш усяго пасьля корняклубнеплодаў, горш за ўсё даецца ураджаем авёс і асабліва ячмень. Апрацоўка глебы павінна зьнішчыць усякае пустазельле, але пасьля пасеву аўсу і асабліва ячменю, трэба, замест звычайнага разавага прыкатваньня пасеву, зрабіць укатку цяжкім налі́ўным катком ў 1—2 сьляды. Там, дзе найбольш ушчыльнёная глеба, пасьля пасеву аўсу, ці ячменю—каля дарог, дзе выпадкова, зараз-жа пасьля пасеву прайшоў трактар, ці падвода, гэтыя палосы яскрава выдзяляюцца, як лепшыя па якасьці ўраджаю.

На больш утрамбованых мясцох хутчэй пасьпявае як авёс, гэтак і ячмень. Так, на добра ўшчыльнёным месцы пасьля пасеву атрыман ураджай ячменю 11 цэнтн. з *га*, на сярэдне-ушчыльнёных вучастках 7,1 цэнтн., а на слаба ўшчыльнёных 5,5 цэнтн. з *га*.

**Трэцім** мерапрыемствам па барацьбе з пустазёрнасьцю зьяўляецца пасеў найбольш устойлівымі гатункамі аўсу і ячменю. З ячменю найбольш устойлівымі зьяўляюцца: мясцовы шасьцірадны, чырвонец. (Пытаньне найбольш устойлівых сартоў патрабуе далейшай прапрацоўкі).

**Чацьвертым** мерапрыемствам супроць пустазёрнасьці ячменю зьяўляецца дадатковае ўнясеньне пад ячмень (перад пасевам) дробна растоўчэнага медзянога купаросу ў колькасьці 25 клгр. на *га*. Пры дадатковым ўнясеньні медзянога купароса атрымоўвалі 15—22 цэнтн. добраякаснага зерня ячменю, а пры адсутнасьці купароса—1,5—2,5 цэнтн. недобраякаснага зерня. Але медзяны купарос зьяўляецца дэфіцытным ў сучасны момант, таму патрэбна зьвярнуць больш увагі на вышэйпамянёныя агрconsiderмерапрыемствы.

**П. І. Парахневіч.**

# Змагацца за высокі ўраджай гародніны

З пытаньнямі агратэхнічнага парадку непасрэдна накіраваных на павышэньне ўраджайнасьці гародніны павінны быць цесна ўвязаны і найсьці сваё вырашэньне наступныя мерапрыемствы:

1) Ажыцьцяўленьне поўнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі прыгарадных раёнаў з разьлікам на поўнае забясьпечаньне гарадзкога насельніцтва гароднінай ў 1933 г. ня менш той нормы, якая зацьверджана СНК СССР.

2) Пашырэньне кансэрвіраваньня і прасьцейшых спосабаў перапрацоўкі гародніны з мэтай забесьпячэньня гароднінай насельніцтва на працягу кругалага году.

3) Пашырэньне раньніх сартоў і раньніх пасеваў гародніны, уключаючы і пашырэньне плошчы пад шклом для атрыманьня раньняй гародніны.

4) Павялічэньне ўдзельнай ўвагі ў прапорцыі гародніх культур найбольш каштоўных відаў гародніны, як памідоры, бабовыя, цукровая кукуруза, салат, шпінат і інш. за лік менш каштоўных, як капусты, гуркі і караньплоды.

5) Разьмяшчэньне гародніх культур праводзіць з такім разьлікам, каб у непасрэдным набліжэньні да гароду знайшлі сабе месца пераважна такія гароднія культуры, якія не вытрымліваюць і слаба паддаюцца перавозкам, з мэтай зьнішчэньня вялікіх страт і загрузкі транспарту, што адбіваецца на сабекошту прадукцыі.

6) Скарыстаньне гарадзкіх нячыстот і гною коннага гарадзкога транспарту на ўгнаеньне.

Агратэхніка гародніцтва павінна адпавядаць запатрабаваньням буйнай мэханізаванай гаспадаркі.

Старая агратэхніка з радковай культурай гародніны, патрабуючай вялікай колькасьці ручной „рабскай“ працы, ва ўмовах буйнай сацыялістычнай гаспадаркі не павінна знайсьці сабе месца. Усе агратэхнічныя мерапрыемствы павінны быць цесна ўвязаны паміж сабой такім парадкам, каб яны адпавядалі сыстэме мерапрыемстваў, накіраваных на непасрэднае павышэньне ўраджайнасьці.

Трэба памятаць, што адно з мерапрыемстваў агульнай сыстэмы, будучы нявыкананай у адпаведнай ступені, рэзка адбіваецца ў адмоўны бок на эфэктыўнасьці мерапрыемстваў цэлай сыстэмы. Невыкананьне ў належнай ступені апрацоўкі глебы—не стварае належнай структуры, а ў сувязі з гэтым зьніжаецца эфэкт угнаеньня, стараюцца спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця сьмяцьцёвай расьліннасьці і ставіцца ў дрэнныя ўмовы рост самой культуры, якая дае паніжаны ўраджай, як з колькаснага, так і якаснага боку.

## Правільны севазварот павышае ўраджай

Адным з рашаючых момантаў у сыстэме мерапрыемстваў, забясьпечваючых павышэньне ўраджайнасьці зьяўляецца **севазварот**. Без севазвароту не адно мерапрыемства і больш таго,—усе мерапрыемствы ня могуць апраўдаць сябе ў поўнай ступені ў справе хутчэйшага павышэньня ўраджайнасьці.

Гароднія культуры не ў аднолькавай ступені патрабуюць тых, або іншых спажыўных матэрый. Больш таго, розныя гароднія культуры ў рознай ступені патрабуюць розных спажыўных матэрый: адна з іх, як капуста, патрабуюць у большай ступені азоту, кораньплоды—калія. Акрамя гэтага адны з гародніх культур з слабай карнявой сыстэмай, як цыбуля, скарыстоўваюць спажыўныя матэрыі з верхняга гарызонту глебы, а другія,—як бабовыя, дзякуючы магутнай карнявой сыстэме,—скарыстоўваюць глебавыя ніжнія гарызонты і сярэдняе месца займаюць кораньплоды. Таму, найбольш поўнае скарыстоўваньне спажыўных матэрый глебы можна ўстанавіць толькі праз ўстанаўленьне адпаведнага чаргаваньня культур.

Урэшце, правільнае чаргаваньне культур зьяўляецца моцным сродкам у справе барацьбы са шкоднікамі і хваробамі. Вядома, што пры бязьзьменнай культуры на працягу некалькіх год на адным і тым-жа вучастку стваряюцца спрыяючыя ўмовы для зьяўленьня хвароб і шкоднікаў, уласьцівых данай культуры. З пераходам-жа гэтай культуры на другі вучастак умовы для шкоднікаў і хвароб мяняюцца і калі тая культура, пры якой яны разьвіліся, або другая блізкая да яе па біалёгічным асаблівасьцям зварочваецца назад ня хутка, то глеба пасьпявае ачысьціцца як ад шкоднікаў, так і ад хвароб.

## Гародніна патрабуе ўгнаеньня

Гароднія культуры патрабуюць вялікай колькасьці арганічных угнаеньняў і асабліва сьвежага арганічнага ўгнаеньня—**гною**. У адносінах запатрабаваньня да гною гароднія культуры падзяляюцца на 3 групы: 1) першы год па гнаі—капуста, гуркі, цыбуля на пяро, салат і інш., 2) капуста ранняя і цьветная, памідоры, бручка і буракі, 3) морква, бульба і бабовыя.

Прыведзены падзел культур і кладзецца ў аснову чаргаваньня апошніх у севазвароце і для супяшчаных і лёгкіх сугліністых глебаў, дзе сьвежа-арганічнае ўгнаеньне ўносіцца раз у 3 гады і гэты падзел можа служыць як прыкладным севазваротам.

На глебах добраўгноеных, дзе эфэкт арганічных угнаеньняў можа зьявіцца і на 4 гады, севазварот можна расьцягнуць на 4 гады з наступным чаргаваньнем культур:

**I год** па гнаі—капуста, салат, шпінат, радыска
**II** „ „ „ —гуркі, памідоры, цыбуля, буракі
**III** „ „ „ —морква, бульба, рэпа, рэдзька
**IV** „ „ „ —гарох, бабы, фасоля.

Трэба адзначыць, што некаторыя культуры ня маюць строга вызначанага месца ў севазвароце і з аднольканым посьпехам могуць разьмяшчацца то ў адным, то ў другім полі севазвароту.

Уключэньне ў севазварот шматгадовых траў набывае асаблівае значэньне ў гаспадарках, дзе глебы ўжо падрыхтаваны да выхаду гародніх культур у палявыя пасевы побач з палявымі культурамі і таксама, калі ў гэтых гаспадарках маюцца другарадныя галіны, патрабуючыя кармовай базы. Суадносіны паміж гароднімі і кармовымі культурамі ў севазвароце ўстанаўліваюцца ў залежнасьці ад асобнай вагі ў гаспадарцы таго, або іншага віду жывёлагадоўлі, ад ступені завозу моцных кармоў і забясьпечанасьці гаспадаркі натуральнымі лугавымі ўжыткамі.

Нормай унясеньня гною лічыцца 60 тон на гэктар. Калі гною не хапае, дык для пакрыцьця патрэб гародніх культур у спажыўных матэрыях, унясеньне гною трэба камбінаваць з штучнымі мінэральнымі ўгнаеньнямі. Штучныя мінэральныя ўгнаеньні каштоўны яшчэ і тым, што яны забясьпечваюць лёгка-растварымымі спажыўнымі матэрыямі расьліны ў першыя часы іх росту, у той час, як гной у гэтым напрамку робіць свой уплыў са значным спазьненьнем.

Пры адначасовым угнаеньні глебы штучнымі мінэральнымі ўгнаеньнямі і гноем, гной уносіцца ў палавіннай норме—30 тон на *га* і поўнае нормы мінэральных угнаеньняў. У якасьці асноўнага фосфарнага угнаеньня лічыцца 14 проц. супэрфасфату, а на кіслых глебах ён замяняецца тамасшлаком. Пад бабовыя супэрфасфат можна замяняць больш танным угнаеньнем фасфарытнай мукой. Калійным угнаеньнем служыць 15-проц. сільвініт, або 30—40-проц. калійная соль. Шырокім азоцістым угнаеньнем служыць 20-проц. сернакіслы амоній.

Поўнай нормай мінэральных угнаеньняў для нашых падзолістых глебах пад гароднія культуры лічацца наступныя:

| Культуры | Сернакіслы амоні 20 проц. | Супэрфасфат 14 проц. | Калійная соль 15 проц. |
|---|---|---|---|
| Капуста . . . . | 3—4,5 | 6,4—8,5 | 6—8 |
| Буракі, морква . . | 2,25—3 | 4,3—6,4 | 4—6 |
| Бабовыя . . . . | 1,0 | 3,2—4,3 | 4—6 |
| Астатнія гародніны | 1,25—3,00 | 3,2—4,3 | 4—6 |

Штучныя мінэральныя ўгнаеньні ўносяцца штогодна. Гарадзкія нячыстоты ўносяцца ў колькасьці 80—100 тон на *га*. Кіслыя глебы перад унясеньнем штучных мінэральных угнаеньняў вапнуюцца ў 6—8 год адзін раз у колькасьці 2—6 тон на гэктар. Вапнуюцца ў першую чаргу глебы пад капусту і гуркі.

## Своечасова вытварай пасеў

Вялікай увагі патрабуе сваячасовасьць пасеву кожнай культуры. З тэрмінамі пасеву трэба ўвязваць асаблівасьці прарастаньня кожнай культуры ў сэнсе іх запатрабаваньня да цеплавога і воднага рэжыму глебы. Бабовыя, зонтычныя (моркаў, пятрушка і цыбуля) патрабуюць раньняга пасеву таму, што зонтычныя маюць доўгі тэрмін прарастаньня, а бабовыя патрабуюць шмат вільгаці, але як адны, так і другія прарастаюць пры нізкай тэмпэратуры. Пазьней высяваюцца буракі, хаця яны і патрабуюць шмат вільгаці, але патрабуюць і значнай колькасьці цяпла і, будучы пасеяны ў халодную глебу—загніваюць.

Бульба, у зьвязку з павышанымі запатрабаваньнямі да цяпла, пры прарастаньні, высяваецца аднолькава з буракамі. Пасьля замаразкаў высяваюцца гуркі, памідоры і фасоль, а затым і капуста. Пасевы распачынаюцца раней на глебах лёгкіх, затым на цяжкіх і ў апошнюю чаргу на тарфяніках.

**Цана 20 кап.**

1964 г.

551

## Як вытвараць пасеў

Пасеў гародніх павінен вытварацца толькі радавы, або гнёздавы, паколькі такія пасевы дазваляюць мэханізаваць уход за расьлінамі (прапашка і праполка). Пры радавым пасеве высяваецца ў 1,5—2 разы менш насеньня. Пасеў насеньня гародніх культур утвараецца на мелкую глыбіню 1—2 *см*, пры чым на лёгкіх глебах пасеў праводзіцца некалькі глыбей, а на нізкіх больш мелка.

Пры высеве гародніх культур, вялікай увагі патрабуе устанаўленьне шырыні паміж радамі, паколькі ўсе прапалачныя і прапашныя работы павінны быць мэханізаваны поўнасьцю. Шырыня паміж радамі ўстанаўліваецца ў залежнасьці ад спосабу апрацоўкі (конная, трактарная), ад тыпу трактара і прычэпнага інвэнтару, а таксама і ад запатрабаваньняў самой расьліны і ступені ўгноенасьці глебы.

Пры ўстанаўленьні шырыні між радамі і адлегласьці паміж расьлінамі ў радох, трэба кіравацца наступнымі нормамі НКЗ СССР:

| | між радк. | у радох |
|---|---|---|
| Буракі сталовыя | 50 *см* | 6—8 *см* |
| Моркаў сталовая | 50 „ | 4—6 „ |
| Цыбуля сьвежая | 50 „ | 4—10 „ |
| Гуркі | 70—90 „ | 4—10 „ |
| Памідоры | 70—90 „ | 30—70 „ |
| Фасоля | 50 „ | 15 *см* |
| Капуста раньняя | 60 „ | 60 „ |
| „ сярэдн. | 70 „ | 70 „ |
| „ позьняя | 90 „ | 90 „ |

Пасеў і пасадка праводзіцца ў строга вызначаныя тэрміны і ўсякае спазьненьне паніжае ўраджай. На ўраджай адбіваюцца і перарывы паміж перадпасеўнай апрацоўкай і пасевам.

**А. Сільвестровіч**

# Як вырасьліваць рассаду капусты

Рассада позьніх гатункаў капусты вырасьліваецца ў рассадніках. Месца пад рассаднікі выбіраецца на тых плошчах, якія ў мінулых гадох ня былі пад капустай, альбо пад рассадай.

Рассаднікі павінны быць ахованы з паўночнага боку будынкамі, ці заборам ад халодных паўночных вятроў і павінны добра асьвятляцца і прыгравацца сонцам. Лепш за ўсё разьмяшчаць рассаднікі каля вады таму, што рассада патрабуе паліўкі.

Для ўстройства рассадніка выкапваецца канаўка шырынёй у 2 мэтры, глыбінёй — 0,5 мэтра, даўжыня звычайна робіцца 10—20 мэтраў. Па бакох канавы ўбіваюцца кольля, да якіх прыбіваюць дошкі, альбо гарбылі на вышыні 25—30 сантымэтраў. У канаву набіваецца добра перапрэўшы конскі гной. Калі конскага гною не хапае, яго магчыма на палову зьмяшаць з кароўім. Гной набіваецца да самага верху скрыні, якая зроблена з дошак над ямай. Праз 2—3 дні пасьля таго, як асядзе гной, паверх яго насыпаецца добрая гародная глеба пластом таўшчынёй у 10—12 сантымэтраў. Паверх гэтай зямлі пасыпаецца вапнай з разьліка 1 кілёграм вапны на кожны квадратны мэтр паверхні рассадніка.

Рассада капусты высяваецца ў рассаднік 1—10 мая радкамі на адлегласьці 6—7 сантымэтраў рад ад раду і на 1—2 сантымэтры ў раду.

Пасьля пасеву, да ўсходаў—рассаднікі пакрываюцца саломеннымі матамі, альбо рагожамі. Пасьля зьяўленьня ўсходаў маты і рагожы на-дзень зьнімаюцца з расаднікаў. На ноч рассаднікі зноў закрываюцца матамі. У тых выпадках, калі прымаразка не чакаецца, рассаднікі застаюцца адкрытымі і на ноч. Праз 10—12 дзён вытвараецца прарэджваньне рассады ў радкох на адлегласьць 4—5 сантымэтраў каліва ад каліва. Вырваную рассаду трэба расьпікіраваць (рассадзіць) на раньняй падрыхтоўванныя грады.

Пры пікіроўцы корань рассады прышчыпваецца на адну трэць даўжыні караня. Рассада высаджваецца пад калочак, якім робяцца ямкі і потым у гэтыя ямкі апускаюць карэньчыкі. Пры пікіроўцы нельга браць рассаду за карэньчыкі, а за лісточкі. Расьпікіроўваецца рассада на адлегласьці 6—7 сантымэтраў паміж радкамі і на 4—5 сант. у раду.

У час роста рассады трэба яе паліваць, калі ў рассадніку глеба перасохшая. Паліўка вытвараецца раніцой, альбо ўвечары. Паліўку неабходна вытвараць асьцярожна з паліваклі праз дробнае сіта, каб не паламаць усходы рассады.

Глеба ў рассадніках павінна быць пухкай і чыстай ад пустазельля. Для гэтага вытвараюць праполку і пухленьне. Калі рассада разьвіваецца дрэнна, неабходна паліць яе гноявой жыжай, якой бярэцца 1 частка на 3 часткі вады.

У час росту, рассада пільна даглядаецца і калі будзе заўважана, што паасобныя яе экзэмпляры маюць пачарненьні ніжняй часткі сьцябла, такую рассаду разам з глебай каля яе вырываюць, каб не распаўсюджвала хваробу, якая называецца „Чорнай ножкай“.

Пры зьяўленьні шкоднікаў неабходна зараз-жа прымаць меры к іх зьнішчэньні.

Рассада высаджваецца ў грунт (5—15 чэрвеня) калі яна разаўе 3—5 сапраўдных лістоў.

Усе гэтыя спосабы вырасьліваньня капуснай рассады датычацца і да вырасьліваньня рассады бручкі.

**Аграном Чэмелеў.**

**Адказны рэдактар: РЭДКАЛЕГІЯ**


Друкарня імя Сталіна. Зак. 1013. Тыр. 3.800 экз. Мен. Гарліт № 1386

207091 11218

